Праваабарончы
# Веснік
*красавік 2012*
Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь

# ВЫЗВАЛЕНЫЯ САННІКАЎ І БАНДАРЭНКА

**Кандыдат у прэзідэнты на выбарах 2010 году Андрэй Саннікаў быў вызвалены з віцебскай калоніі 14 красавіка. Дзмітрый Бандарэнка выйшаў з магілёўскай калоніі на волю на наступны дзень. Першае інтэрвію Андрэй Саннікаў даў сайту charter'97.org**

*— За ўсю гісторыю лукашэнкаўскай Беларусі з усіх палітвязняў, якіх у краіне было тысячы, вам, напэўна, прыйшлося перажыць больш за ўсіх: катаванні, здзекі, шантаж забойствам жонкі і сына, сем этапаванняў з адной калоніі ў другую, адзіночная камера, поўная ізаляцыя ... Чаму менавіта з вамі абышліся так жорстка?*

— Напэўна, пытанне не да мяне, і я не думаю, што перанёс больш, чым хтосьці іншы. У дачыненні да ўсіх сённяшніх палітвязняў былі зняты ўсе абмежаванні на «беспредел».

Таму тое, што адбывалася са мной, тое, што адбываецца з астатнімі — гэта беспрэцэдэнтныя здзекі, катаванні і зноў жа — не з мэтай дамагчыся нейкай просьбы, прызнання віны. Усё нашмат страшней: знішчыць фізічна, знішчыць маральна. Чаму гэта адбываецца, пытанне таксама не да мяне. Я думаю, што ўся гэтая практыка абавязкова будзе асуджана.

*— Пра тое, якім катаванняў вы падвяргаліся, вы змаглі паведаміць у судзе, потым перадаць праз адвакатаў і жонку. Ці ёсць нешта, чаго мы не ведаем?*




*Андрэй Саннікаў да і пасля зняволення*

— Я думаю, што я не маю права сёння ў падрабязнасцях распавядаць, што са мной адбывалася, бо мая сям'я, калегі, аднадумцы сёння застаюцца закладнікамі.

Я па сабе ведаю, як любое неасцярожнае слова можа быць выкарыстана супраць іх.

Магу толькі сказаць, што, на мой погляд, была мэта знішчыць мяне фізічна, пажадана давесці да самагубства, штурхнуўшы да бестэрміновай галадоўкі. Зрабіць так, каб фізічную ліквідацыю можна было спісаць на добраахвотнае рашэнне сысці з жыцця. Я баюся, што тое самае адбываецца з Сяргеем Каваленкам і іншымі палітвязнямі.

*— Гэта значыць, метады спецслужбаў не змяніліся з 1937 года?*

— Калі я кажу пра тое, што наогул няма абмежаванняў, я маю на ўвазе, што спецслужбы (і не толькі спецслужбы) пайшлі нашмат далей, чым іх калегі ў сталінскія часы. Нават пры Сталіну не ўжывалі такіх гнюсных метадаў у дачыненні да палітвязняў, як сёння ў Беларусі.

*— Вам не здаецца, што гэта асабістая помста Лукашэнкі вам, як найбольш моцнаму яго суперніку?*

— Безумоўна, я бачу тут асабісты матыў. Але дзеля справядлівасці павінен сказаць, што я вітаю яго рашэнне

*Заканчэнне на старонцы 2*

# ВЫЗВАЛЕНЫЯ САННІКАЎ...

*Заканчэнне.*
*Пачатак на на старонцы 1*

памілаваць мяне, Змітра Бандарэнку і вельмі спадзяюся — усіх астатніх палітвязняў. Ведаю, што яму вельмі нялёгка гэта было зрабіць.

*— І чаму, па-вашаму, ён гэта зрабіў?*

— Адказ відавочны. Гэта, безумоўна, уплыў мер, прынятых Еўрасаюзам. Але тут хачу падкрэсліць: толькі дзякуючы салідарнасці беларусаў, сем'яў палітвязняў, нашых сяброў, фактычна ўсёй краіны ў рашэннях уплывовых міжнародных структур стала з'яўляцца выразная і прынцыповая палітыка ў дачыненні да Беларусі.

*— Шмат аб чым хочацца ў вас спытаць, але разумеем, што за адну размову не ўдасца. Ацаніце дзень 19 снежня 2010 года: і самі выбары, і вечаровыя падзеі на Плошчы.*

— Я лічу, што 19 снежня мы ўсе перажылі хвіліны найвышэйшага эмацыйнага ўздыму, які затым ўлады ператварылі ў найглыбейшую трагедыю апошніх гадоў.

Да гэтага часу лічу, што ў той момант была магчымасць пачаць прадметны дыялог для выхаду Беларусі з тупіку, але сярод чыноўнікаў не знайшлося ні аднаго мужнага чалавека, які быў бы гатовы ўзяць на сябе адказнасць. Я думаю, што на гэтае пытанне двума словамі не адкажаш. Думаю, гэта тэма для асобнай гутаркі.

*— Андрэй Алегавіч, гэты дзень стаў фатальным для вас. Вы апынуліся ў турме, ваша жонка Ірына Халіп таксама была арыштаваная, вы ледзь не страцілі сына, практычна ўсе члены вашага штаба падвергнуліся рэпрэсіям. Не шкадуеце, што пайшлі ў прэзідэнты?*

— Гэтае пытанне не зусім правільнае. Проста іншага рашэння не было. З другога боку, гэта правільнае пытанне, бо нішто мяне так не мучыць, як лёс маёй сям'і, маіх сяброў. Але віны сваёй у гэтым я не адчуваю, бо я быў і застаюся прынцыповым прыхільнікам негвалтоўных дзеянняў.

І калі і была радасць у мяне ў СІЗА КДБ, то гэтая радасць была звязана з умоўным вызваленнем жонкі, з тым, што Наталлі Радзінай удалося з'ехаць ад праследу, з тым, што маім сябрам удалося пазбегнуць арышту. У СІЗА КДБ мяне «аберагалі» ад любой інфармацыі, звязанай з выездам за мяжу маіх сяброў, але, калі яна праточвалася праз муры «амерыканкі», гэта была сапраўды радасць.

*— Андрэй Алегавіч, што Вы хочаце сказаць людзям, якія за вас галасавалі, якія змагаліся за ваша вызваленне?*

— Я ніяк не чакаў такой хвалі салідарнасці, падтрымкі, людскага стаўлення, такога ўдзелу ў лёсе палітвязняў. Я яшчэ раз хачу паўтарыць: толькі дзякуючы гэтаму ўзнік такі ціск на рэжым, які прывёў да майго вызвалення і павінен у найбліжэйшы час прывесці да вызвалення ўсіх палітвязняў.

*— Мы яшчэ пазмагаемся?*

— Жыве Беларусь!

## *ДАВЕДКА*

**АНДРЭЙ САННІКАЎ** - прэтэндэнт на пасаду прэзідэнта Беларусі на выбарах 2010 года, каардынатар грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь».

Нарадзіўся ў Мінску 8 сакавіка 1954 года. Унук Канстанціна Саннікава — беларускага рэжысёра, народнага артыста БССР, аднаго з заснавальнікаў Нацыянальнага Купалаўскага тэатра.

У 1977 годзе А.Саннікаў скончыў перакладчыцкі факультэт Мінскага Дзяржаўнага інстытута замежных моваў. Працаваў у Пакістане і Егіпце.

У 1989 годзе скончыў Дыпламатычную акадэмію Міністэрства замежных справаў СССР у Маскве. Акрамя роднай беларускай, свабодна валодае таксама рускай, ангельскай і французскай мовамі.

У 1982-1987 гадах працаваў у Нью-Ёрку ў сакратарыяце ААН. У 1993-1995 гадах А.Саннікаў працаваў дарадцам прадстаўніцтва Беларусі у Швейцарыі. У 1995-1996 гадах займаў пасаду намесніка міністра замежных справаў Беларусі. Мае ранг Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла. У лістападзе 1996 г., напярэдадні антыканстытуцыйнага рэферэндуму, падаў у адстаўку на знак пратэсту.

У лістападзе 1997 г. А.Саннікаў выступіў ініцыятарам «Хартыі'97», стаў міжнародным каардынатарам гэтай грамадзянскай ініцыятывы. У 1998 г. разам з Генадзем Карпенкам стварыў Каардынацыйную Раду дэмакратычных сілаў Беларусі.

У 2008 годзе разам з іншымі палітыкамі стаў ініцыятарам грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь», якая ставіць сваёй мэтай ўступленне Беларусі ў Еўрапейскі Саюз.

У 1998-2002 – рэктар Народнага універсітэта, нефармальнага адукацыйна-асветніцкага праекта. 2005 год – Лаўрэат міжнароднай прэміі імя Бруна Крайскага ў галіне абароны правоў чалавека.

Жанаты, мае двух сыноў. Жонка — вядомая беларуская журналістка, карэспандэнт расійскай «Новой газеты» Ірына Халіп.

19.12.2010 затрыманы падчас мірнай маніфэстацыі супраць фальсіфікацыі выбараў і змешчаны ў СІЗА КДБ.

14 траўня 2011 г. асуджаны на 5 гадоў зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму за арганізацыю «масавых беспарадкаў».

Адбываў пакаранне ў Наваполацкай калоніі, затым быў этапаваны ў калонію № 2 г. Бабруйску. Пасля Бабруйска напрыканцы лістапада 2011 г. Саннікава перавялі ў калонію пад Віцебскам — «Віцьба-3».

14 красавіка 2012 вызвалены згодна з указам аб памілаванні.

# “ВЯСНА” АДЗНАЧАЕ 16-Ю ГАДАВІНУ ДЗЕЙНАСЦІ

**16 год таму, пасля брутальных затрыманняў падчас “Чарнобыльскага Шляху”, пачыналася праца групы людзей, якая занялася зборам і распаўсюдам інфармацыі пра затрыманых, а таксама спрабавала аказаць ім матэрыяльную дапамогу. Так узнікла арганізацыя “Вясна-96”, цэнтральным накірункам працы якой стала дапамога ахвярам палітычных рэпрэсій і інфармаванне грамадскасці пра гэтыя рэпрэсіі.**

Пра гісторыю стварэння Праваабарончага цэнтра “Вясна” яе заснавальнік і нязменны кіраўнік Алесь Бяляцкі распавядае ў інтэрвью да кнігі “Наша Вясна”:

“Вясна” пачыналася тады, калі цэлую вясну 96-га года ішлі масавыя акцыі, якія адбываліся з розных прычынаў. У красавіку – у сувязі з так званай Саюзнай дамовай з Расіяй, якую Лукашэнка збіраўся заключаць з Ельцыным. Перад гэтым адзначалася 15 сакавіка – Дзень Канстытуцыі, затым 25 сакавіка – Дзень Волі, калі прайшла вялікая дэманстрацыя па праспекце Незалежнасці да Опернага тэатру і будынку Белтэлерадыёкампаніі на Чырвонай, дзе патрабавалі прамога эфіру, бо тады ўжо былі праблемы з інфармацыяй і яе распаўсюдам. Тады была ўзбуджана крымінальная справа за парушэнне парадку, але яна нічым не скончылася. А 26 красавіка на плошчы Якуба Коласа сабралася 40-50 тысяч чалавек, якія пайшлі затым па праспекце Незалежнасці да цырка і па вуліцы Багдановіча да Палацу спорта, дзе былі праведзены мітынгі. Падчас гэтай дэманстрацыі міліцыя перакрыла дарогу машынамі, былі выстаўлены кардоны АМАПу, і ўсё гэта суправаджалася жорсткімі сутычкамі з людзьмі. У той дзень было арыштавана больш за 200 чалавек, узбуджана чарговая крымінальная справа. У СІЗА апынуліся Юры Хадыка і Вячаслаў Сіўчык як заяўляльнікі акцыі. Вострa ўзнікла пытанне тэрміновай дапамогі ў зборы інфармацыі і давядзенні яе да сваякоў затрыманых, бо паніка тады была нават большая, чым мы бачылі ў 2006-м і ў 2010-м гадах падчас падобных масавых арыштаў. Проста тады гэта было ўпершыню. Я хачу падкрэсліць, што да гэтага акцыі, за выключэннем “Дзядоў” 1988 года, у нас фактычна не разганяліся. Так, былі затрыманні, быў нейкі млявы пераслед, але так масава, нахабна і жорстка, як гэта адбылося ў красавіку 96-га года – такога не было. Мне падаецца, менавіта тады Лукашэнка вырашыў жорсткасцю сілавых дзеянняў спыніць масавыя акцыі.




У гэтай сітуацыі ўзнікла група людзей, якая занялася зборам і распаўсюдам інфармацыі, а таксама матэрыяльнай дапамогай: мы шукалі грошы, прадукты харчавання для тых, хто сядзеў па крымінальнай справе і на “сутках”. У прыватнасці, адзін чалавек перадаў нам харчы і мы потым іх раздавалі сем’ям рэпрэсаваных. Гэта было не так шмат, але – чым маглі... Гэтая група працавала прыкладна месяц.

“Закручванне гаек” у той час ішло па розных накірунках. Напачатку красавіка быў затрыманы і сядзеў у СІЗА Славамір Адамовіч. Узнікла патрэба ў дапамозе яму, бо ягоная маці, пенсіянерка, сама не спраўлялася. На адным з мітынгаў мы сабралі пэўную суму грошай і перадалі ёй – на перадачы для Славаміра.

Цэнтральным накірункам нашай працы стала дапамога ахвярам палітычных рэпрэсій і інфармаванне грамадскасці пра гэтыя рэпрэсіі. Усё рабілася на абсалютна добраахвотных пачатках. У той час я працаваў дырэктарам літаратурнага музея Максіма Багдановіча, быў сакратаром Управы БНФ. Улічваючы, што тады Фронт быў асноўнай актыўнай вулічнай сілай, найбольш ахвяраў было якраз сярод сяброў БНФ.

У 97-м годзе да гэтай працы далучыліся некалькі дзяўчат-валанцёрак з ліку супрацоўніц музея – напрыклад, Паліна Сцепаненка. Паступова мы пашыралі сваю працу і пачалі шукаць кантакты ў рэгіёнах, таму што рэпрэсіі разгарнуліся па ўсёй Беларусі. Нам патрэбны былі людзі, гатовыя працаваць у праваабарончым накірунку па ўсёй краіне, і на працягу 97-га года мы фактычна адбудавалі рэспубліканскую структуру. 23 лютага 1998 года мы зарэгістравалі “Вясну-96” як мінскую гарадскую арганізацыю і адначасова рыхтавалі дакументы для стварэння нацыянальнай. У 1999 годзе “Вясна” была зарэгістравана як арганізацыя рэспубліканская і ў такім статусе існавала да 2003 года, калі рашэннем Мінюста і Вярхоўнага суда яна была зачынена за ўдзел у назіранні за прэзідэнцкімі выбарамі 2001 года. З тых часоў працуем без рэгістрацыі”.

Сваё 16-годдзе арганізацыя адзначае выхадам кнігі “Наша Вясна” - гэта гісторыя ў асобах. Ініцыятарам выдання з’яўляецца Алесь Бяляцкі.

Як адзначаецца ў прадмове да выдання, “Усё, што не пакладзена на паперу, не зафіксавана – лічы, што яго і не было”, – казаў ён. А на прыкладзе “Вясны” можна адсочваць важныя працэсы найноўшай гісторыі Беларусі: барацьбу за правы чалавека і дэмакратычныя каштоўнасці, супрацьстаянне асобы і аўтарытарызму, станаўленне і развіццё праваабарончага руху. Гэтая кніжка, па меркаванні Бяляцкага, таксама павінна быць адказам на шалёную дыскрэдытацыю праваабаронцаў, разгорнутую праз дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі. Хто на самой справе гэтыя людзі па сваіх перакананнях, каштоўнасцях і прафесіі, які іх шлях да праваабароны і якой яны бачаць будучыню краіны – гэта таксама можна пабачыць з партрэтных інтэрв’ю, сабраных у гэтым выданні.

# САВЕТ ПРЫ ПРЭЗІДЭНЦЕ РАСІІ ПА ПРАВАХ ЧАЛАВЕКА ПРОСІЦЬ МЯДЗВЕДЗЕВА СПРЫЯЦЬ ВЫЗВАЛЕННЮ ПРАВААБАРОНЦЫ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА

**28 красавіка на сустрэчы з прэзідэнтам РФ Дзмітрыем Мядзведзевым у падмаскоўнай рэзідэнцыі Горкі сябры Савета па правах чалавека перадалі яму ліст з просьбай выкарыстоўваць увесь свой уплыў, каб спрыяць вызваленню ў Беларусі праваабаронцы Алеся Бяляцкага.**

*Тэкст ліста:*

“Прэзідэнту Расійскай Федэрацыі Д.А. Мядзведзеву

Паважаны Дзмітрый Анатольевіч!

Мы просім Вас выкарыстоўваць увесь Ваш уплыў для таго, каб спрыяць вызваленню са зняволення ў Рэспубліцы Беларусь нашага калегі, праваабаронцы Аляксандра (Алеся) Віктаравіча Бяляцкага.

Алесь Бяляцкі - адзін з самых вядомых беларускіх праваабаронцаў, старшыня праваабарончага цэнтра «Вясна», віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека. Мы ўсе добра ведаем і вельмі высока ацэньваем яго праваабарончую дзейнасць, якой ён займаўся на працягу апошніх дваццаці пяці гадоў, многія з расійскіх праваабарончых арганізацый супрацоўнічалі з узначаленым ім цэнтрам «Вясна». Алесь Бяляцкі - абсалютна бескарыслівы і сумленны чалавек, цалкам адданы абароне правоў чалавека як у сябе на радзіме, так і ва ўсім свеце. Дзякуючы дзейнасці Алеся Бяляцкага, шмат яго суайчыннікаў змаглі атрымаць прававую дапамогу, дамагчыся аднаўлення парушаных правоў.

За сваю праваабарончую працу Алесь Бяляцкі быў ўганараваны шэрагам прэмій, у тым ліку шведскай прэміяй імя Пера



Ангера (2006 г.), прэміяй Свабоды імя Андрэя Сахарава Нарвежскага Хельсінскага камітэта (2006 г.), дыпломам «За мужнасць і барацьбу за свабоду» (на ўзнагароджанні 2 кастрычніка 2011 года на V Міжнародным фестывалі праваабарончых фільмаў у Бішкеку Алесь Бяляцкі не прысутнічаў, паколькі на той час ужо знаходзіўся пад арыштам).

З кастрычніка 2011 г. Алесь Бяляцкі быў вылучаны на Нобелеўскую прэмію міру. На момант вылучэння яго кандыдатуры чатыры лаўрэаты прэміі выказалі сваю згоду з гэтым вылучэннем. Кандыдатуру Бяляцкага падтрымалі парламентарыі 27 краін - сябраў Савета Еўропы. У красавіку 2012 г. Нобелеўскі камітэт у Осла зноў зарэгістраваў Алеся Бяляцкага афіцыйным кандыдатам на атрыманне прэміі міру.

Наш сябар і калега Алесь Бяляцкі быў арыштаваны 4 жніўня 2011 г. па надуманай прычыне ўхілення ад падаткаў. 23 лістапада 2011 г. суд Першамайскага раёна Мінска прызнаў Алеся Бяляцкага вінаватым ва ўхіленні ад выплаты падаткаў і прысудзіў да чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці (частка 2 артыкула 243 Крымінальнага кодэкса РБ).

Цалкам відавочна, што Бяляцкі быў пакараны за свой удзел у справе абароны правоў чалавека ў Беларусі. Усе сродкі, у нявыплаце падаткаў з якіх ён абвінавачаны, прызначаліся выключна на праваабарончую дзейнасць, гэтыя сродкі не з’яўляліся прыбыткам Бяляцкага.

Некаторыя з сябраў Савета пры Прэзідэнце Расіі па развіцці грамадзянскай супольнасці і правах чалавека прысутнічалі ў якасці назіральнікаў у Мінску на працэсе па справе Алеся Бяляцкага. Яны адзначалі, што працэс ішоў з відавочна абвінаваўчым ухілам, усе довады абароны суд проста не прымаў да ўвагі, пазіцыя абароны не была нагогул ніяк адлюстравана ў прысудзе, які відавочным чынам знаходзіцца ў супярэчнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь. З шэрагу дакументаў, агучаных падчас працэсу, стала відавочна, што органы пракуратуры, узбуджаючы крымінальную справу супраць Алеся Бяляцкага, выконвалі прамы палітычны заказ - спыніць працу праваабарончага цэнтра «Вясна».

Алесь Бяляцкі прызнаны арганізацыяй Amnesty International вязнем сумлення. Усе мы і нашы арганізацыі падзяляем гэтую ацэнку.

Цяпер з месца зняволення Алеся Бяляцкага прыходзяць трывожныя навіны пра прыкметнае пагаршэнне яго здароўя.

Мы просім Вас, Дзмітрый Анатольевіч, распачаць магчымыя крокі для таго, каб спрыяць вызваленню Алеся Бяляцкага.

З павагай,
сябры Савета пры Прэзідэнце Расіі па развіцці грамадзянскай супольнасці і правах чалавека:

**Аляксеева Людміла Міхайлаўна**, Старшыня Маскоўскай Хельсінкскай групы,

**Ганнушкіна Святлана Аляксееўна**, сябра Савета Праваабарончага цэнтра "Мемарыял", Старшыня Камітэта "Грамадзянскае садзейнічанне",

**Джыбладзэ Георгій Джуаншэравіч**, прэзідэнт Цэнтра развіцця дэмакратыі і правоў чалавека,

**Крывенка Сяргей Уладзіміравіч**, сябра Праўлення Міжнароднага таварыства "Мемарыял",

**Кукліна Іда Мікалаеўна**, сябра каардынацыйнага савета Саюза камітэтаў салдацкіх маці Расіі,

**Панфілава Алена Анатольеўна**, Дырэктар Цэнтра антыкарупцыйных даследаванняў і ініцыятываў "Транспэрэнсі Інтэрнэшнл – Р",

**Сіманаў Аляксей Кірылавіч**, Прэзідэнт некамерцыйнай арганізацыі «Фонд абароны галоснасці".

Напярэдадні ўручэння гэтага ліста прэзідэнту РФ пад ім падпісаліся яшчэ 8 сябраў Савета. Усяго пад лістом паставілі подпіс 15 сябраў Савета.

## ДАВЕДКА

*Віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека, старшыня ПЦ «Вясна» Алесь Бяляцкі 24.11.2011 г. быў прыгавораны да 4,5 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Ён прызнаны вінаватым ва ўтойванні даходаў у асабліва буйным памеры па ч.2 арт.243 Крымінальнага кодэкса.*

*Падставай для крымінальнага пераследу А.Бяляцкага стала інфармацыя аб яго замежных банкаўскіх рахунках, перададзеная ў Мінск чыноўнікамі Літвы і Польшчы ў рамках двухбаковых пагадненняў аб прававой дапамозе. Потым польскія і літоўскія ўлады выказалі прабачэнні Бяляцкаму і яго сям'і.*

*Беларуская і міжнародная дэмакратычная грамадскасць, кіраў-ніцтва Еўрасаюза, ЗША і шэрагу іншых краін лічаць вынесены праваабаронцу прысуд палітычна матываваным і патрабуюць ад улад Беларусі безумоўнага вызвалення Бяляцкага.*




*Алесь Бяляцкі падчас суду*

# СЯБРЫ ПЕРАДАЛІ МУЗЫЧНАЕ ВІНШАВАННЕ АЛЕСЮ БЯЛЯЦКАМУ ДА 16-ГОДДЗЯ "ВЯСНЫ"

27 красавіка "вясноўцы" павіншавалі свайго нязменнага кіраўніка з 16-ай гадавінай дзейнасці заснаванай ім арганізацыі. Песню пра вясну для Алеся перадалі праз «Радыё Магілёў», што вяшчае online і на хвалях 96,4 FM. У адным з сваіх лістоў Алесь напісаў сябрам, што гэтую радыёхвалю слухаюць у бабруйскай калоніі:

"З музыкі слухаю толькі тое, што перадаюць на "Радыё Магілёў". Гэта fm-радыё. Улічваючы, што шмат песень перадаюць па заяўках, то добра ўведаў музычныя густы Магілёўшчыны. Песні амаль адныя і тыя ж. Але часам замаўляюць і ставяць "Кіно" і "Ляпісаў".

Спадзяемся, музычнае віншаванне дайшло да адрасата і спадабалася яму! Для Алеся прасілі песню, вядома ж, пра вясну, на што дыджэй прапанаваў новую кампазіцыю гурта "Аёва".

# ИСТОРИЯ АДВОКАТА ПАВЛА САПЕЛКО

**Павел Сапелко не может назвать количество административных процессов, в которых он защищал неправильно митингующих и прочих матерщинников. Это фигура культовая и сложно найти в среде политически активных молодых и не очень людей тех, кто не знал бы его имени. И при упоминании его многие скажут вам - он меня защищал.**

**Немецкое отделение Amnesty International заявило о намерении выдвинуть Павла Сапелко на международную премию имени Гранта Динка. Эта премия присуждается смелым общественным деятелям или журналистам, которые борются за свободу слова и права человека.**

**Мы встретились с ним, чтобы вспомнить и сравнить процессы разных периодов его карьеры.**

## О ПЕРВЫХ ПОЛИТИЧЕСКИХ ПРОЦЕССАХ

– Политические процессы в моей судьбе начались с судов над участниками массовых мероприятий по административным делам - защитниками Куропат.

Относительно участия в политических делах было больше самоцензуры, чем реальных рисков: многие их сами себе придумывали, мы еще не так далеки были от 80-х, работала генетическая память о советских временах, о том, что противников режима защищать опасно.



*Павел Сапелко*

Но все же сформировался круг адвокатов, работавших по таким делам.

*- Что руководило этими адвокатами?*

- Я думаю, что это было правильное понимание роли адвоката. Ну, и какая-то гражданская позиция.

Были и те, кто рассуждал так: “Мы же защищаем воров, насильников, убийц, можно и политических защищать, чем они хуже”. Но в основном это было - “кто, если не ты”.

## УГОЛОВНИКИ ЗА ПРЕЗИДЕНТА

Первым ярким уголовным делом было дело Оксаны Новиковой, ей вменяли клевету на президента. И потом было дело организации “Зубр” в Шклове по оскорблению президента.

Процессы шли бойко, хотя результат был предполагаем. Но я считаю, что защита своих целей достигла: те, кто следил за процессом, видел необоснованность обвинений и внутреннюю глубокую правоту обвиняемых и адвокатов. На процессе Новиковой очень ярко прозвучали показания свидетелей - Лебедько и Погоняйло, которые рассказали о торговле оружием, об исчезновениях людей, - процесс был использован как своего рода трибуна. По итогу “зубрам” дали штраф, Новиковой – условный срок.

Того, что будут давить на адвокатов, даже не предполагалось - адвокаты не нарушали ни закон, ни этику.

*- Если сравнивать то, как вели себя судьи тогда и теперь?*

- Раньше судьи гуще краснели.
Да и я мог оправдать их поведение. Знания о правах человека, международных договорах в этой сфере были недостаточно распространены, чтобы судьи понимали разницу между законом, нарушающим права человека, и законом, который может и должен применяться. Судьи искренне не понимали, что законы о массовых мероприятиях или об общественных объединениях нарушают нормы международного права.

К середине 2000-х перед адвокатами была задача быть просветителями.

Сейчас совершенно другая ситуация: давно существуют образовательные программы по правам человека для правоохранителей, судей, прокуроров. Но то ли им неправильно доносят информацию, то ли ее упорно не хотят воспринимать.

## ИНТЕРЕСЫ СЕМЬИ ВИКТОРА ГОНЧАРА

У семьи Гончар был представителем Гарри Петрович Погоняйло, но с изменением законодательства он лишился этой возможности. Вторым представителем семьи, наряду с Гарри Петровичем, стал я.

Переписка с прокуратурой была похожа на разговор немого с глухим. Мы пытались узнать результаты расследования по делу, а нам упорно выдавали документы то о приостановлении, то о возобновлении производства. Так это и закончилось. Ничем.

## ДЕЛО "ПАРТНЕРСТВА"

Это уголовное дело шло паралельно с административными процессами за Площадь-2006. А они были "веселые": половину времени рабочего, которое могло затянуться и до 10-ти вечера, занимал поиск подзащитных. Приходилось объезджать суды, РУВД. Тогда же защищал и Александра Милинкевича, когда его привлекали к административной ответственности за нарушение порядка проведения массовых мероприятий.

Дело "Партнерства" расследовала прокуратура, люди содержались в СИЗО КГБ, и то ли времена были другие, то ли руководство, но таких гадостей как с "декабристами" не происходило. У меня и мысли не возникало, что меня могут не допустить к подзащитному. Тогда мы с пониманием относились к ситуации: действительно в следственном изоляторе полтора кабинета. Но тогда решалось очень просто. Ты приходил, например, утром, тебе говорили, что до 16-00 кабинет занят, в 16-00 ты приходил и попадал к своему подзащитному. Решалось максимум на следующий день, а как правило день в день. Для ознакомления с материалами дела использовался актовый зал следственного изолятора.

Потому-то 22-23 декабря 2010-го я говорил в СМИ, что недопуск адвокатов - какая-то техническая сложность.

Процесс "Партнерства" непростой был - и внимание общественности большое, и состав новый - судебной практики не было. У суда - ноль знаний о правах человека. И спасибо судье, который хотя бы с точки зрения национального законодательства правильно квалифицировал действия. Но он так и не понял, что действуя в рамках национального законодательства, нарушил нормы международного права. В частности, право на объединение.

*- Не возникало претензий к тому, что вы говорили журналистам?*

- Вообще вопрос о том, как я комментирую действия свои или правоохранительных органов, не возникал до декабря 2010.

Да и претензий к моей достаточно насыщенной общественной жизни не высказывалось. В 2000-х годах я открыто ездил на семинары ОБСЕ и другие мероприятия. Я не вижу ничего плохого в том, что адвокаты, будучи в некотором смысле общественными деятелями, популяризируют и свою профессию, и свою деятельность. Хотя, конечно, недовольство органов адвокатского самоуправления чувствовалось.

## ДО И ПОСЛЕ "ДЕКАБРИСТОВ"

Больше 10-ти лет Министерство юстиции не злоупотребляло возможностью контроля адвокатов. Во время проверок всегда уделялось внимание тому, чтобы основополагающих принципов независимости адвокатуры не затрагивать.

Юридическую жизнь я делю на "до" процессов 19-го и "после". Потому что "до" была хоть и неравноправная борьба, но хотя бы какой-то соревновательный процесс. Вот вы нарушили законодательство, а дайте-ка я пожалуюсь так, что вас накажут за нарушение. Этот орган не наказал - вышестоящему пожалуюсь. Раз - и что-нибудь улучшилось. "После" иллюзии отпали.

*Текст – Алина Радачинская,*

*www.belhelcom.org*

# СПІС ПАЛІТЫЧНЫХ ВЯЗНЯЎ

**Праваабарончы цэнтр "Вясна" прызнае наяўнасць у Беларусі наступных палітычных вязняў (асобаў, якія незаконна пазбаўлены свабоды за свае палітычныя перакананні):**

**1. Мікалай Аўтуховіч** – *узяты пад варту 8 лютага 2009 г., асуджаны 06.05.2010 Вярхоўным судом па ч. 3 арт. 295 КК (незаконныя дзеянні ў адносінах да вогнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў) да 5 гадоў і 2 мес. пазбаўлення волі ва ўмовах строгага рэжыму. Рашэннем суду ад 17.01.2012 умовы адбыцця пакарання былі зменены на больш жорсткія, пераведзены з калоніі №5 у Івацэвічах ў турму №1 г.Гродна.*

**2. Мікалай Статкевіч** - *узяты пад варту з 20 снежня 2010 г., асуджаны 26.05.2011 г. судом Партызанскага раёна г.Менску па ч. 1 арт. 293 КК (арганізацыя масавых беспарадкаў, якія суправаджаліся гвалтам над асобай, пагромамі, падпаламі, знішчэннем маёмасці і узброеным супрацівам прадстаўнікам улады) да 6 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Рашэннем суду ад 12.01.2012 г. умовы адбыцця пакарання былі зменены на больш жорсткія, пераведзены з калоніі №17 у Шклове ў турму №4 г. Магілёва.*

**3. Павал Севярынец** – *узяты пад варту з 20 снежня 2010 г., асуджаны 16.05.2011 г. судом Заводскага раёна г.Менску па ч.1 арт. 342 КК да 3 гадоў абмежавання волі. Знаходзіцца ў ПУАТ-7 в.Куплін.*

**4. Зміцер Дашкевіч** – *узяты пад варту з 18 снежня 2010 г., асуджаны 24.03.2011 г. судом Маскоўскага раёна г.Менску па ч. 2 арт. 339 КК (злоснае хуліганства) да 2 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах агульнага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №13 у Глыбокім.*

**5. Эдуард Лобаў** – *узяты пад варту з 18 снежня 2010 г., асуджаны 24.03.2011 г. судом Маскоўскага раёна г.Менску па ч. 3 арт. 339 КК (асабліва злоснае хуліганства) да 4 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах строгага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №22 у Івацэвічах.*

**6. Сяргей Каваленка** – *узяты пад варту з 22 снежня 2011 г. па арт.415 КК (парушэнне ўмоваў адбыцця пакарання ў выглядзе абмежавання волі). 14.05.2010 г. ён быў асуджаны па ч.1 арт. 339 КК (наўмысныя дзеянні, якія груба парушаюць грамадскі парадак) Кастрычніцкім судом г.Віцебска да 3 гадоў абмежавання волі.*

**7. Алесь Бяляцкі** – *узяты пад варту з 4 жніўня 2011 г., асуджаны 24.11.2011 г. судом Першамайскага раёна г.Менску па ч.2 арт. 243 КК (утойванне прыбыткаў у асабліва буйным памеры) да 4,5 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Знаходзіцца ў турме №2 у Бабруйску.*

**8. Мікалай Дзядок** – *узяты пад варту 3 верасня 2010 г., асуджаны 27.05.2011 г. судом Заводскага раёна г.Менску па ч.2 арт. 339 КК да 4,5 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №17 у Шклове.*

**9. Ігар Аліневіч** – *узяты пад варту з 29 лістапада 2010 г., асуджаны 27.05.2011 г. судом Заводскага раёна г.Менску па ч.2 арт. 339 КК, ч.2 і ч.3 арт.218 КК (пашкоджанне маёмасці агульнанебяспечным спосабам і ў асабліва буйным памеры) да 8 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №10 у Наваполацку.*

**10. Аляксандр Францкевіч** – *узяты пад варту 3 верасня 2010 г., асуджаны 27.05.2011 г. судом Заводскага раёна г.Менску па ч.2 арт. 351 КК (наўмыснае знішчэнне кампутарнай інфармацыі) і ч.2 арт.339 КК да 3 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №22 у Івацэвічах.*

**11. Яўген Васьковіч*** – *узяты пад варту з 17 студзеня 2011 г., асуджаны 18.05.2011 г. судом Бабруйскага раёна і г.Бабруйску ч.2 арт.339 КК і ч.3 арт.218 КК да 7 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Рашэннем суду ад 12.10.2011 г. умовы адбыцця пакарання былі зменены на больш жорсткія, пераведзены з калоніі №15 у Магілёве ў турму №4 г. Магілёва.*

**12. Арцём Пракапенка*** - *узяты пад варту 17 студзеня 2011 г., асуджаны 18.05.2011 г. судом Бабруйскага раёна і г.Бабруйску ч.2 арт.339 КК і ч.3 арт.218 КК да 7 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №15 у Магілёве.*

**13. Павал Сырамолатаў*** - *узяты пад варту 17 студзеня 2011 г., асуджаны 18.05.2011 г. судом Бабруйскага раёна і г.Бабруйску ч.2 арт.339 КК і ч.3 арт.218 КК да 7 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №19 у Магілёве.*

**У дзеяннях дадзеных асобаў угледаюцца прыкметы правапарушэння, але адзначаем несправядлівую кваліфікацыю іх дзеянняў і празмернасць вынесенага пакарання. Лічым, што яны адбылі ўжо дастатковае пазбаўленне волі для здзейсненага ўчынку і ўтрыманне надалей іх у зняволенні палітычна матываванае.*

Праваабарончы веснік. Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь. Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 ас.